№ 8 жнівень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Мова - гэта вялікі народны скарб. Яе нельга не паважаць, як нельга не паважаць родны народ.**

*Іван Мележ*

## У НУМАРЫ:








# НАШЫ НАВІНЫ

***

15 жніўня сябры пастаўскай суполкі Таварыства беларускай мовы правялі невялікую талаку па ўпарадкаванні тэрыторыі вакол сядзібы ТБМ па вуліцы Гагарына. Стала прыгажэй і ўтульней.

***

22 жніўня на пасяджэнні сяброў ТБМ была абмеркавана праграма курсаў беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны, работа над якой вялася ў арганізацыі з вясны гэтага года. У яе распрацоўцы бралі ўдзел настаўніцы беларускай мовы Тамара Захарэвіч, Аліна Латыш, Ніна Субач, а таксама краязнаўцы Ігар Пракаповіч і Вадзім Шышко.

***

28 жніўня сябры ТБМ Ігар Пракаповіч, Людміла Сяменас і Вадзім Шышко ўдзельнічалі ў здымках відэасюжэта тэлекампаніі "Паставы-ТБ", прысвечанага курсам беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны, якія плануе наладзіць пастаўская суполка ТБМ.

***

Напрыканцы жніўня Пастаўшчыну наведаў ураджэнец нашага краю, доктар медыцынскіх навук, прафесар, актыўны дзеяч беларускай эміграцыі, рэдактар і заснавальнік інтэрнет-часопіса "Сакавік" Пётра Мурзёнак. Пасля пятнаццаці гадоў жыцця ў Канадзе ён упершыню наведаў родныя мясціны, каб сустрэцца з блізкімі і знаёмымі. Адбылася сустрэча і з сябрамі ТБМ, падчас якой шаноўны госць падарыў на памяць свае кнігі "Крыніца" і "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам".

***

У першы дзень верасня ў горадзе Быхаве пройдзе юбілейны, дваццаты, Дзень беларускага пісьменства. У 2006 годзе гэта свята ладзілася ў Паставах, таму дэлегацыя нашага раёна запрошана на сёлетнія ўрачыстасці.

***

Сумны факт: на Пастаўшчыне за апошнія дзесяць гадоў зачынена 21 школа. Амаль усе яны былі беларускамоўныя.

***

Газета рэспубліканскай Рады ТБМ «Наша слова» ў шэрагу нумароў за жнівень-верасень друкуе артыкул Яся Драўніцкага «Графіня Гелена Ромер-Ахянкоўская» пра ўраджэнку Пастаўшчыны, журналістку і асветніцу.

## РАСКЛАД ЗАНЯТКАЎ курсаў беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны

на верасень-пачатак кастрычніка
**(кожны чацвер, 18.00, дзіцячая бібліятэка г. Паставы)**

12.09. Мова: "Характэрныя асаблівасці беларускага вымаўлення" – Аліна Латыш, настаўніца беларускай мовы СШ № 3;
Краязнаўства: "Прырода Пастаўшчыны" – Ігар Пракаповіч, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі.

19.09. Мова: "Асаблівасці націску ў беларускай мове" – Тамара Захарэвіч, настаўніца беларускай мовы СШ № 2;
Краязнаўства: "Насельніцтва Пастаўскага краю" – Ігар Пракаповіч, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі.

26.09. Мова: "Асаблівасці пабудовы словазлучэнняў у беларускай мове" – Ніна Субач, настаўніца беларускай мовы Пастаўскай гімназіі;
Краязнаўства: "Назвы нашых мясцін" – Ігар Пракаповіч, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі.

03.10. Мова: "Асаблівасці пабудовы словазлучэнняў у беларускай мове" – Ніна Субач, настаўніца беларускай мовы Пастаўскай гімназіі;
Краязнаўства: "Старажытная гісторыя Пастаўшчыны" – Ігар Пракаповіч, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі.

**Вадзім Шышко**

# ФІЗІЯЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Нацыяналізм – гэта адно з тых супярэчлівых адкрыцьцяў ХІХ стагодзьдзя, ацэнкі якога па сёньняшні дзень адрозьніваюцца супрацьлегласьцю і нявызначанасьцю. З аднаго боку, менавіта пад сьцягам нацыяналізму вялікая колькасьць краін здолела вызваліцца з-пад прыгнёту наднацыянальных імперый, якія пагражалі падпарадкаваным народам уніфікацыяй іх мовы і культуры з паступовым зьвядзеньнем усёй іх культурнай разнастайнасьці да нейкага адзінага ўзору дамінуючага ў імперыі этнасу. Але, зь іншага боку, некаторыя краіны захапіліся нацыяналізмам настолькі, што ён у іх пачаў прымаць пагрозьлівыя гіпертрафаваныя формы. Прыклад нацысцкай Нямеччыны ў гэтым шэрагу самы яскравы, але далёка не адзіны.

Што ж гэта за з’ява такая супярэчлівая, якая адначасова “і лечыць, і калечыць”? Паспрабуем зразумець гэта праз больш дэталёвы разбор таго, што менавіта робіць гэты самы нацыяналізм у нашым грамадзтве. Ці, калі больш дакладна, што мы робім самі з сабой зь яго дапамогай. Спачатку паспрабуем знайсьці вытокі нацыяналізму.

Слова “нацыяналізм” узьнікла ад слова “нацыя”. Нацыя – гэта (ад лац. natio – племя, народ) сацыяльна-эканамічная, культурна-палітычная і духоўная супольнасьць індустрыяльнай эпохі. Першымі сучаснымі нацыямі, па сьцьвярджэньні класіка дасьледаваньня нацыяналізму Бенедыкта Андэрсана, былі лацінаамерыканскія, якія сфармаваліся ў ходзе барацьбы супраць іспанскай кароны, за якімі зь невялікім адрывам рушылі ўсьлед ЗША і затым Францыя.

Упершыню разуменьне «нацыя» ў яго палітычным значэньні з’явілася менавіта падчас Вялікай Французскай рэвалюцыі, калі паўстала неабходнасьць сфармаваць нейкую агульнасьць наўзамен страчанага “падданства французскай кароне”. Раней 1750 выявіць зародкі нацыяналізму ўжо вельмі складана, нацыяналізм – феномен Новага часу. У 1800-я гады паўстаў нямецкі нацыяналізм, затым рушылі ўсьлед нацыяналізм Грэцыі і скандынаўскіх краін (1810-20 гады), італьянскі нацыяналізм (1830-я гады), у 1850-1900 гадах нацыяналізм распаўсюдзіўся на краіны Усходняй Еўропы і ў Індыю, а ў пачатку 20 ст. – у краіны Азіі і Афрыкі. Самымі гістарычна маладымі нацыямі сталі нацыі в’етнамцаў і камбаджыйцаў: іх нараджэньне прыйшлося на 1930-50 гады. Такім чынам, ідэалогія нацыяналізму ў адным са сваіх асьпектаў заключаецца ў адасабленьні і вылучэньні асобнай нацыі з агульнай колькасьці народнасцяў, якія пражывалі да ўзнікненьня нацыі на пэўнай тэрыторыі. Пасля адасабленьня нацыі парадыгма нацыяналізму пачынае працаваць на станаўленьне, абарону і ўмацаваньне сваёй нацыі (пар. станаўленьне большасьці славянскіх нацый падчас распаду Аўстра-Вугорскай імперыі).

Але ці значыць гэта, што да эпохі Новага часу ніякія іншыя этнасы не імкнуліся абараніць і ўмацаваць сваё становішча сярод іншых? У такіх вялікіх маштабах, як сёньня, канешне, не. Але ў больш дробных этнічных супольнасьцях мы можам знайсьці нешта падобнае. Хаця ў такіх выпадках казаць аб нацыяналізме нельга ні ў якім разе. Тут самы паказальны прыклад – старажытнагрэцкія полісы. Калі выключыць з дэфініцыі разуменьня слова “нацыя” індустрыяльную эпоху, то ўсё астатняе цудоўна пасуе сярэднестатыстычнаму жыхару старажытных Афін або іншага суседняга горада. Жыхары аднаго горада вельмі шчыльна адчувалі паміж сабой як сацыяльна-эканамічныя, так і культурна-палітычныя, і духоўныя сувязі, якіяператваралі іх усіх у адзіную супольнасьць горада-дзяржавы.

Чым, так мовіць, нацыяналізм старажытных грэкаў адрозьніваўся ад сучаснага нацыяналізму? Па вялікаму рахунку, толькі арэалам свайго распаўсюджваньня. Які, у сваю чаргу, залежыць менавіта ад тэхналагічнага разьвіцьця дадзенай супольнасьці. Тут трэба заўважыць такую акалічнасьць: выключна палітычная падпарадкаванасьць ня можа стварыць з падпарадкаваных этнасаў нацыю так хутка, як гэта робіць тэхналагічна-інфармацыйная ўзаемасувязь і ўзаемазалежнасьць. Узгадаем усе велізарныя імперыі

старажытнасьці. Як бы доўга яны не існавалі, але палітычна дамінуючыя этнасы ў іх так і ня здолелі з усіх народаў стварыць нейкую адзіную нацыю. Таму так званы старажытны "нацыяналізм" заўсёды быў абмежаваны толькі невялікай тэрыторыяй канкрэтнага этнасу, межы якой дазвалялі насельніцтву быць цесна зьнітаваным паміж сабой эканамічна і інфармацыйна. Ва ўсіх астатніх сваіх дзеяньнях старажытныя "нацыі" паўтаралі тое ж самае, што і цяперашнія, агульнапрынятыя нацыі: станаўленьне, абарона і ўмацаваньне. Прычым, гэта ўласьціва ўсім старажытным супольнасьцям, ад самага дробнага племені да высо-каразьвітых народаў, якія нават здолелі стварыць свае імперыі.

Таму мы можам дэфінаваць, што, такая грамадзкая з'ява, як нацыяналізм, была заўсёды ўласьціва чалавецтву. А тэхналагічнае разьвіцьцё толькі надало гэтай з'яве ўжо надэтнічны, планетарны характар. Як прыклад – амерыканская нацыя, якая ня мае свайго дакладнага этнічнага базіса і збольшага складаецца з прадстаўнікоў самых розных этнасаў, але сам алгарытм разьвіцьця нацыі застаецца той самы: станаўленьне, абарона і ўмацаваньне. Наколькі ж глыбока ў сутнасьць чалавека ўваходзіць гэтая з'ява? Думаецца, што глыбей, чым гэта можа нам падацца з цяперашняга нашага ўзроўню культурнага разьвіцьця. І для параўнаньня зірнём на навакольны сьвет. У прыватнасьці – на тых жывёл, якія жывуць у супольнасьці.

Як бы гэта не здавалася дзіўным, але для выжываньня якой-небудзь жывёльнай супольнасьці яе ўдзельнікам трэба выконваць той жа самы алгарытм дзеяньняў. Гэтым жывёлам трэба спачатку аб'яднацца, стварыць сваю супольнасьць – станаўленьне. Умець дапамагчы адзін аднаму абараніцца ад самых розных небясьпечных зьнешніх з'яў – абарона. Асваеньне магчыма большых арэалаў пражываньня, каб забясьпечыць неабходнымі сродкамі для жыцьця і сябе, і сваіх нашчадкаў – умацаваньне.

Як бачна, паводзіны жывёл дакладна паўтараюць тыя працэсы, якія адбываюцца падчас станаўленьня нацыі. Праўда, назваць гэта жывёльным "нацыяналізмам" будзе, мякка кажучы, недарэчна, бо з жыцьця жывёл выпадаюць такія выключна чалавечыя фактары, як культура, эканоміка, духоўнасьць. Але, тым ня менш, сам працэс разьвіцьця супольнасьці, ці то жывёльнай зграі, ці то чалавечай нацыі, атрымліваецца аднолькавым.

І калі мы ўважліва зірнём на разьвіцьцё чалавечай нацыі, але, умоўна кажучы, ужо з боку зграі жывёл, то пабачым усё тое ж самае. Які-небудзь актыўны, пасіянарны этнас спачатку вылучае сваю самаідэнтычнасьць сярод сваіх суседзяў, а пасьля спрабуе пашырыць тэрыторыю свайго існаваньня, падмінаючы пад сябе слабейшых і баронячыся ад мацнейшых. Нічога прынцыпова адрознага ад таго, што мы можам убачыць сярод жывёл. Таму можна зрабіць наступную выснову, што, па сваёй сутнасьці, нацыяналізм – гэта тая ж самая барацьба за выжываньне, заснаваная на жывёльным інстынкце самазахаваньня і падмацаваная тэхналагічным прагрэсам чалавечага розуму.

Гучыць нават крыху зьбянтэжваюча. Атрымліваецца, што нацыяналізм – гэта жывёльны інстынкт. Але пужацца няма чаго. Ніколі нельга забывацца на тое, што чалавек – гэта істота дуалістычная. І акрамя сваёй духоўнай, разумовай сферы, чалавек яшчэ фізіялагічна карыстаецца тымі ж самымі інстынктыўнымі механізмамі, што і астатнія жывёлы вакол нас. Гэта цалкам нармальна. Іншая справа, што такое, здавалася б на першы погляд, ідэалістычнае разуменьне, як "нацыяналізм" (і блізкі да яго "патрыятызм"), на самой справе з'яўляецца такім жа самым фізіялагічным інстынктам, як і многія іншыя. Падобна на тое, што нацыяналізм, як бы выказаўся ў свой час доктар З. Фрэйд, сублімаваўся з інстынктыўна-жывёльнага ўзроўню ў тэарэтычна-ідэалістычны.

Можа ўзьнікнуць пытаньне, як у такім выпадку нам ставіцца да нацыяналізму, калі на самой справе ён з'яўляецца такой жа самай жывёльнай патрэбай нашага арганізму, як ежа, сон, сэкс, бясьпека і г.д.? Адказ адназначны: гэтак жа сама, як і да ўсіх астатніх нашых жывёльных патрэб. Ні ў якім разе не ігнараваць, але і без фанатызму.

(працяг будзе)

**Людміла Сяменас**

# ТБМ ЗАПРАШАЕ НА КУРСЫ

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны запрашае на курсы беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны. Магчыма, староннi чалавек, прачытаўшы такую аб'яву, здзівіцца: маўляў, як так здарылася, што ў Беларусі родную мову вывучаюць на курсах, нібы замежную. На жаль, гэта гістарычная хвароба беларусаў, якая ідзе ў глыб вякоў. І апошнім крывавым следам, што пакінуў незагойную рану, было рэпрэсаванне амаль 80% беларускай інтэлігенцыі ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. А, як вядома,




інтэлігенцыя – гэта носьбіт культуры, адукацыі і нацыянальнай мовы. Але вернемся ў наш час. Сёння ў грамадстве існуе некалькі пунктаў гледжання на нацыянальную мову. Адны абвяшчаюць, што яны выраслі ў рускамоўным асяроддзі, для іх руская мова і культура сталі роднымі, і ў Беларусі няма патрэбы ў веданні беларускай мовы. Другія дадаюць, што, калі вывучаць другую , пасля рускай, мову, то гэта павінна быць англійская, таму што гэта міжнародная мова, якую ведаюць ва ўсім свеце. Ёсць яшчэ і трэці пункт гледжання: людзі, якія прытрымліваюцца яе, сцвярджаюць, што беларуская мова – гэта падмурак нацыянальнай культуры, той корань, ад якога расце нацыя, ён дазваляе трывала стаяць на сваёй зямлі, трымацца яе. Веданне беларускай мовы з'яўляецца абавязковым для кожнага грамадзяніна РБ. І, як паказвае сусветны досвед, гэта не развažанні беларускага летуценніка. У наш час – час глабалізацыі, калі міжнародныя карпарацыі ў мэтах атрымання звышпрыбылі імкнуцца зрабіць нас аднолькавымі, пазбаўленымі ўсялякай адметнасці, - нацыянальныя эліты пачынаюць біць у набат дзеля захавання сваёй аўтэнтычнасці. Напрыклад, у Францыі быў прыняты закон аб абароне французскай мовы. І таму пазіцыя чалавека, які паважае культуру і мову іншых народаў, але любіць і шануе, у першую чаргу, сваё, роднае, вельмі зразумелая і блізкая як для грамадзяніна ўсходняй, так і заходняй цывілізацыі.

Але вернемся да нашых курсаў. Курсы беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны арганізуюцца для тых, хто ўсвядоміў для сябе значнасць ведання мовы і гісторыі свайго краю, але пачаць гаварыць па-беларуску саромеецца з прычыны таго, што атрымліваецца так званая "трасянка". Менавіта нашы заняткі дазволяць пераадолець псіхалагічны бар'ер і дапамагчы пачаць думаць па-беларуску, а не перакладаць з рускай. Аб прафесіяналізме выкладання сведчыць той факт, што ў падрыхтоўцы курсаў бралі ўдзел вядомыя сваёй дасведчанасцю людзі: Пракаповіч Ігар, настаўнік, краязнаўца, паэт; Шышко Вадзім, гісторык, навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея; Захарэвіч Тамара, настаўніца, якая падрыхтавала цэлую пляяду пераможцаў раённых, абласных, рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове, а тасама вядомыя на Пастаўшчыне выкладчыцы беларускай мовы Аліна Латыш і Ніна Субач. Заняткі будуць праходзіць у нязмушанай сяброўскай атмасферы, аздобленыя раздатачным матэрыялам і відэапрэзентацыямі.

Запрашаем моладзь. Апошнім часам размаўляць у маладзёжным асяродку стала модна і прэстыжна. Акрамя таго, будучыя абітурыенты змогуць атрымаць бясплатныя кансультацыі па беларускай мове, гісторыі Беларусі, геаграфіі Беларусі. Запрашаем прадстаўнікоў сферы паслуг і гандлю. Беларускамоўны пакупнік аддасць перавагу таму, хто зможа падтрымаць з ім гаворку. Запрашаем усіх, незалежна ад узросту і адукацыі.

Прэзентацыя курсаў адбудзецца 5 верасня ў 18 гадзін у памяшканні дзіцячай бібліятэкі імя У. Дубоўкі. Адпаведна наступныя заняткі будуць праходзіць па чацвяргах у дзіцячай бібліятэцы ў 18 гадзін. Кантактны тэлефон: МТС 375295148003 (Людміла).

# “ЗРОБІМ ЛЕПШ – 2013”




Недзяржаўныя арганізацыі Беларусі ў жніўні распачалі правядзенне кампаніі “Зробім лепш-2013”. Сутнасць яе заключаецца ў тым, каб сумеснымі намаганнямі актывістаў “трэцяга сектару”, мясцовых жыхароў і мясцовых уладаў вырашыць нейкія пэўныя лакальныя праблемы, якія датычаць якой-небудзь вёскі, мікраёна, горада, сацыяльнай групы. Такое ўзаемадзеянне на месцах можа даць добры вынік у маштабах усёй краіны. Нездарма і галоўны прынцып кампаніі гучыць важка і аптымістычна: “Разам зробім жыццё ў Беларусі лепшым!”

Удзельнікі недзяржаўных арганізацый на Пастаўшчыне, у першую чаргу краязнаўцы і сябры ТБМ, маюць намер далучыцца да гэтай кампаніі. Плануецца арганізаваць шэраг сустрэч з мясцовымі жыхарамі ў школах і бібліятэках раёна з мэтай папулярызацыі ведаў сярод насельніцтва пра родны край. У сустрэчах будуць удзельнічаць вядомыя краязнаўцы, якія раскажуць пра свае росшукі, публікацыі, кнігі. Ужо падрыхтавана адмысловая камп”ютарная прэзентацыя, у якой прадстаўлены кароткія біяграфіі і выданні ўсіх даследчыкаў Пастаўшчыны, вядзецца падрыхтоўка да выдання даведніка “Краязнаўцы Пастаўшчыны”.

Разам з гэтым мяркуецца наладзіць некалькі экспедыцый у знікаючыя вёскі раёна, каб запісаць успаміны іх апошніх жыхароў, сабраць каштоўныя звесткі па гісторыі і культуры паселішчаў, якія ў хуткім часе сыдуць у нябыт.

# *ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РАЗВАЖАННЯ*

На сённяшні дзень велізарныя пласты гісторыі і культуры асобных рэгіёнаў і раёнаў не толькі не апісаны і не зафіксаваны, а сыходзяць у нябыт разам з марнеючымі вёскамі і іх апошнімі жыхарамі. Думаецца, збор як мага больш поўнай інфармацыі пра асобныя населеныя пункты, якім наканавана лёсам у бліжэйшы час сысці ў вечнасць, — актуальнейшая агульнабеларуская задача. Вось прыклад з Пастаўшчыны: у 2001 годзе ў Пастаўскім раёне налічвалася 516 населеных пунктаў, з якіх у 123-х пражывала менш за 10 жыхароў, а ў 55 — менш за пяць. На сённяшні дзень на месцы большасці з гэтых вёсак засталіся закінутыя хаты ды зарастаючыя быллём сады. А тут жылі людзі, якія працавалі, спявалі, расказвалі гісторыі, святкавалі святы, ладзілі вяселлі, выраблялі калаўроты, бочачкі, сані, ткацкія станкі і шмат-шмат чаго іншага, але свайго, адметнага, непаўторнага. Знікаючыя вёскі напоўнены матэрыяльнымі і духоўнымі скарбамі, а мы не звяртаем на гэта ўвагі, не надаём ім значэння ці то ад уласнай душэўнай пустэчы, ці то ад звычайнай абыякавасці. Варта зразумець, што разам са знікненнем у гэтых паселішчах хат, хлявоў, прылад працы, студняў і іншых пабудоў і рэчаў адбываецца знямення тутэйшых мясцін, якое вядзе да спусташэння і абяднення нашай мовы. Вакол кожнай вёскі ўсе адметныя мясціны мелі свае слоўныя абазначэнні, якія ведаў кожны яе жыхар. Калі казалі пра “выган”, “лучыху”, “маргі”, “хвацень”, “рум” ці штосьці іншае, то ўсім было вядома, пра што ідзе гаворка. Але старыя людзі паміраюць, вёскі знікаюць або засяляюцца прышлымі насельнікамі – і назвы знікаюць.

**Наталля Пракаповіч**

# НОВАЯ КНІГА ПІСЬМЕННІКА

У выдавецтве "Кнігазбор" у Мінску выйшла ў свет новая кніга пісьменніка і краязнаўцы з Паставаў Ігара Пракаповіча "Вышкі". Гэта зборнічак невялікіх празаічных твораў абстрактна-крытычнага жыццёва-філасофскага зместу з вялікай доляй гумару




і несур'ёзнасці, якія аўтар і назваў "вышкі". Пачынаецца кніжачка з "прадмоўкі", у якой тлумачыцца працэс напісання гэтых твораў і іх класіфікацыя, а таксама для чытачоў прапануюцца варыянты магчымага ўдзелу ў стварэнні новых вышак. Дарэчы, аўтар абвяшчае і конкурс для сваіх будучых суаўтараў, прапануючы ў якасці вышэйшай ўзнагароды сумесны адпачынак на адным з Нарачанскіх азёр, для іншых – нейкія невялічкія падаруначкі.

У выданні прадстаўлена 61 вышка. Яны ўсе дысперсныя, арыгінальныя, амаль бессюжэтныя і таму складаныя для пераказу. Пэўнае ўяўленне пра змест вышак можна атрымаць з іх назваў, напрыклад: "Слінагон", "Гля ў люстру", "Гадлюстраванне", "Вусаты дзіў", "Льюбоў", "Каканаванне кокаў", "Хэнць", "Ганарыя", "Тутэйшы трэвэл", "Казачны сада-маза", "Асалода правакацый", "Семкалузганне" і іншыя.

Думаецца, што чытачы, якія любяць гумар, іронію і прыколы, змогуць атрымаць задавальненне ад прачытання гэтай кніжачкі. Наклад выдання невялікі, прадаецца яна толькі ў магазінах "Акадэмкніга" і "Кніжны салон" у Мінску, а таксама ў кніжным аддзеле "Культтавараў" і магазіне "Шкаляр" у Паставах. Дарэчы, там жа можна набыць і краязнаўчыя кнігі Ігара Пракаповіча "Назвы нашых мясцін", "Назвы нашых вёсак", "Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна", "Паставы. Гістарычна хроніка горада", "1812. Вайна на Пастаўшчыне" (у суаўтарстве з В. Шышко) і некаторыя іншыя.

**Ігар Пракаповіч**

### XXIII
### ЗАДНІ ЛІХТАР

Вы прыйшлі ў гэты свет, каб авалодаць дрэвам жыцця.

А дрэва гэтае прыгожае, як каханая дзяўчына, і высокае, як найвышэйшы эўкаліпт.

Там, у высокай кроне, калышыцца такое вабнае яйко сонца. Там утульна, цёпла і шчасліва, і таму вы лезеце на дрэва.

Уверх!

"Га-га-га" ды "хі-хі-хі". Жарцікі маладосці ўзрушваюць адрэналін і напампоўваюць сілы.

Вы аслеплены далёкім сонцам і магчымасцю паўзці ўверх.

Але прыйдзе час, калі, падняўшы вочы ўгору, убачыце нешта нечакана белае. Яно будзе таксама рухацца і таксама ўверх. Троху пазней вы зразумееце, што гэта – зад чалавека, які паўзе па дрэве жыцця перад вамі. Ён голы і блішчыць, бо штаны сцёрліся да нітак.

Спачатку вы будзеце рагатаць. Потым – усміхацца. Пазней – станеце сур'ёзнымі. І, урэшце, вас агорне страх.

А калі чалавек будзе падаць?

А калі чалавеку забаліць жывот?

А калі…

Што тады?

Вы асцярожна зірняце ўніз і ўбачыце яшчэ аднаго чалавека, асветленага ліхтаром вашага зада.

### XXXIV
### ГЛЫБІННЫЯ ВЕДЫ

Вы маеце глыбінныя веды.

Вам вядома, што сонца ходзіць вакол зямлі, а каб яно не паляцела ў космас, прывязана тонкім, але моцным сталёвым дротам.

Вам вядома, што сярод кратоў сустракаюцца залатыя краты, якія зарываюцца глыбока ў нетры, дзе, напаўшы на залатую жылу, харчуюцца ёю.

Вам вядома, што Беларусь мяжуе з такімі ладнымі краінамі, як Расея, Кітай і Штаты, бо сама вельмі магутная.

Вам вядома, што ваш род пачынаецца ад Нерона (па матчынай лініі) і 19-ай жонкі Чынгіс-хана (па бацькоўскай), а заканчваецца пакуль што вамі.

Вам вядома, што колькі рыбу ні паі, а яна ўсё адно піць хоча.

Вам вядома, што алкаголь – ваш вораг, але вы з апантаным энтузіязмам праглынаеце бочкі гарэлкі, віна і піва, бо шануеце Біблію, у якой запісана, што трэба любіць ворагаў сваіх.

Вам вядома, што ў прароцтвах Нострдамуса напісана і пра вас, але пакуль што цэнтурыя гэта не расшыфравана навукоўцамі.

Вам вядома, што калі доўга-доўга ісці на захад, то прыйдзеш на ўсход, бо палюсы перыядычна мяняюць свае знакі.

…………………………….

Вам патрэбна вялікая і глыбокая скрыня. (Для смецця).

Бо вы маеце дужа глыбінныя веды.

### LII
### КАЗАЧНЫ САДА-МАЗА

Вы любіце слухаць казкі.

Праўда, не ўсе і не да канца.

Вам падабаюцца выбраныя месцы.

Ванька-дурань адсякае дванаццаць галоў Змею Паганаму, кроў б’е фантанам і расцякаецца, расцякаецца…

Дзед вязе зімой на санках бабіну дачку, садзіць яе на снег пад хвою і праз колькі часу ў дзяўчыны адмярзаюць ногі, рукі, нос, нутро, і яна ледзянее.

Хлопчык п’е ваду з лужынкі і становіцца козлікам.

Змей Гарыныч прылятае і есць жанчын.

Іван – сялянскі сын пайшоў у трыдзясятае царства і не вярнуўся.

Цар лупцуе дубцамі сваіх вяльможаў, а яны ўслаўляюць ягоную мудрасць.

Шэры воўк глытае кастлявую Бабку і закусвае пульхнай Унучкай.

Вурдалак пракрадаецца апоўначы ў спальню каралеўскага палаца і смокча кроў з сімпатычнай прынцэсачкі.

Ля Лукамор’я пад дубам цар разам з катам прыбівае да дрэва язык мужнага Руслана.

З прыпечка падае яечка: дзед плача, баба плача, а курачка кудахча.

Воўк разганяецца і з усяе моцы б’ецца галавой аб дрэва, а лісіца назірае, як мазгі расцякаюцца, расцякаюцца…

…………………………….

### LVII
### СВАБОДНАЕ КАТАННЕ

Вы любіце катацца,

Вы любіце катацца на танках.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках па нашай зямлі.

Вы любіце катацца на танках з дубінкамі ў руках па нашай зямлі і крычаць пра свабоду.

Вы любіце свабоду.

Вы любіце крычаць пра свабоду.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі з дубінкамі ў руках.

Вы любіце крычаць пра свабоду на нашай зямлі з дубінкамі ў руках, катаючыся на танках.

І які ж ……………………………. ня любіць катацца на танках па нашай зямлі?




Шыпшына
Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш
Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч
Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў
Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма
Наклад 100 асобнікаў